**Абвяшчэньне № 79.** Сходы, каторые будуць адбывацца без адпаведнага на гэта дазволу Адміністрацыйнага Аддзелу Менскага Округу, будуць прызнавацца за нелегальные.

Асобы, што будуць прыймаць учасьце у гэтых сходах, а перад усім улады памяшканьняу, у каторых будуць адбывацца сходы, будуца карацца у адміністрацыйным парадку—грашыма да 30,000 марак, або арэштам да 6 месяцау.

**О. Еленскі**
п. аб. Начальніка Менскага Округу.
**Р. Турчынскі**
п. аб. Інспэктара Адміністрацыі,

*Рэдактар-выдавец*
*Ядв. ЛУЦЭВІЧ.*



Менск. Друкарня Інвалідау,